# ВЫБАР

ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА- ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

№ 1 (7) ✦ 9 студзеня 1992 г. Цана 40 кап.

# ЗВАРОТ ДА ГРАМАДЗЯН ГОРАДА ВІЦЕБСКА

## ДЭЛЕГАТАЎ КАНФЕРЭНЦЫІ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПАРТЫЙ І РУХАЎ

**Паважаныя грамадзяне!**

**Мы перажываем з вамі складаны гістарычны перыяд.**

**Кастрычніцкі пераварот 1917 года прыпыніў самавызначэнне нацыі, прывёў нас да палітычнага і эканамічнага тупіка. Камуністычны рай не адбыўся. Непамерна высокую цану прыйшлося заплаціць нашаму народу за гэты эксперымент.**

**Сёння, калі цяжкасці і збядненне непасільным цяжарам навальваюцца на нашы плечы і кожны з нас ліхаманкава шукае кропку апоры, мы лічым, што аб'ядноўваючым пачаткам выхаду з жалезнага ўціску гэтага крызісу можа стаць ідэя адраджэння, стварэння беларускай незалежнай дзяржавы, дзе будуць захоўвацца ў поўным аб'ёме правы чалавека, і прадстаўнікі ўсіх нацыянальнасцей будуць роўныя і свабодныя.**

**Толькі ў такой дзяржаве, па меры авалодання нашай прыгожай і мілагучнай мовай, пазнання гістарычнай і культурнай спадчыны, па меры ўзрастання нацыянальнай самасвядомасці і годнасці, мы крок за крокам будзем усведамляць сябе грамадзянамі вольнай Беларусі.**

**Толькі ў незалежнай і вольнай дзяржаве мы зможам стварыць многаўкладную рыначную эканоміку, дзе маладыя і моцныя будуць клапаціцца аб сабе самі, а старыя і слабыя атрымаюць падтрымку дзяржавы.**

**Нельга сядзець, склаўшы рукі, і спадзявацца на дапамогу. Гэта недастойна чалавека. Нашы гераічныя продкі на працягу вякоў змагаліся за правы людзьмі звацца. Так было пры гістарычнай бітве пад Грунвальдам, так было і значна пазней, калі нацыянальны герой Беларусі Кастусь Каліноўскі збіраў на барацьбу люд беларускі пад бел-чырвона-белымі колерамі і гербам «Пагоня».**

**Пад такім жа сцягам і гербам дамагайцеся атрымання зямлі ва ўласнасць, фабрык і заводаў — ва ўласнасць праз акцыяніраванне, выбараў народных дэпутатаў, здольных забяспечыць развіццё дзяржаўнасці на Беларусі.**

**Мы верым шчаслівую будучыню нашай рэспублікі і заклікаем прасякнуцца гэтай верай і вас.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!** г. Віцебск, 21 снежня 1991 года.

*Вспомним старое*

# Презенты для депутатов

Накануне Нового года в бывшем здании общественно-политического центра состоялся общегородской слет народных избранников.

Руководители города проводили День депутата. Ничего особенного не было — плановая говорильня. Однако вспомнили старую партийную традицию и организовали выездную торговлю. Продавались апельсины и яблоки по государственной цене. И как заметила одна из руководящих и направляющих лиц города смущение некоторых депутатов, тут же заверила, что все это тоже будет продаваться избирателям города накануне Нового года. Правда, не оговорила, какой длины будут очереди.

Здесь же была развернута продажа книг. Мой знакомый приобрел трехтомник А. Солженицына «Архипелаг ГУЛАГ», имелась и другая незалежавшаяся литература.

Не знаю, как народные депутаты, но мне представляется, что Александр Исаевич не был бы в восторге от такой формы распространения его творений.

Пусть меня упрекнут мои оппоненты в необольшевизме, но хотелось бы привести высказывание Феликса Дзержинского: «Мы коммунисты (читай депутаты) должны жить так, чтобы широчайшие массы трудящихся видели, что мы слуги народа, что победой революции и властью мы пользуемся не для себя».

В пролетарском районе ДСК, забытом богом и начальством, (вспомните фразу в объявлениях обмена жилья — «район ДСК не предлагать») я не видел в свободной продаже апельсин.

Как нам удалось выяснить, апельсины по цене 3 руб. 50 коп. за килограмм продавали инвалидам Великой Отечественной войны. Так что можно поздравить наших депутатов с тем, что в результате чрезмерного усердия руководства города их приравняли к престарелым ветеранам войны.

**А. КУПОНОВ.**

# Патриотизм в запасниках

Говорят, один из нынешних известных белорусских историков случайно в запасниках Витебского краеведческого музея в ничем не приметном и, казалось, мало кому нужном экспонате обнаружил пояс... Стефана Батория.

Мне рассказывали, что в тех же запасниках хранится топор китайского палача (15-й век), десятки реликвий боевого 1812 года и т. д.

Это все — говорят. Увидеть экспонаты мы не можем. Музей более 10 лет закрыт, он ремонтируется. Многие поколения школьников лишены возможности познакомиться со своей историей. И мы еще удивляемся — где наша национальная гордость, куда она подевалась у старых и малых?

Зато с методической точностью начальство, пионеры и комсомольцы по нескольку раз в году возлагали цветы к памятнику В. И. Ленина. Это же делают и сейчас молодожены. Цветы к памятнику человека, оставившего после себя идеологический топор, которым вырубили наши национальные корни, разнесли храмы и другие святыни.

Благодаря этому топору ремонт краеведческого музея уже начал отсчитывать второе десятилетие. Объект национальной культуры оказался никому не нужным из сильных мира сего. Судя по нему резкого поворота к нашим белорусским духовным ценностям не предвидится. Они по-прежнему в запасниках.

**С. ХОРОЩЕВ, народный депутат областного Совета.**




—Спасибо Санта Клаусу, будет чем порадовать наших ребятишек.

# *Встреча в микрорайоне ДСК*

*Уважаемые витебляне!*

*Приглашаем вас на встречу представителей партий и движений города с жителями микрорайона ДСК, которая состоится 11 января этого года с 10 до 12 часов дня во Дворце культуры ПО «Витебскдрев».*

**Консультативный совет демократических партий и движений г. Витебска.**

# «Гняздо» каля Глыбокага

*Разам з беларускай газетай «Зважай» рэдакцыя атрымала гэта пісьмо з Канады нашага земляка*

ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! — К. Каліноўскі

ISSN 0700-5172

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎЧЫНЫ



ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

**Рэдакцыі газэты «Выбар» у Віцебску**

Паважаныя Суродзічы.

Атрымаў я ўжо ад вас аж чацьвёрты нумар газэты за 20 лістапада. А сяньня — 5-га сьнежня. Як бачыце, Вашая птушка скора да мяне прыляцела. Дзякую Вам вельмі. У свой час зьбіраўся прывітаць выхад Вашай газэты. Няхай памагае Вам Бог у працы. Добрага здароўя ўсім Вам, вытрываласьці і энергіі ў будучыні! Называю Вас суродзічамі, бо і тое «раськіданае гняздо», зь якога вылецеў некалі, ня так далёка ад Вас, дзесьці каля Глыбокага. Спадзяюся, што яшчэ некалі яго наведаю.

Гэта-ж віншую Вас усіх, што памаглі, каб нашая шматпакутная Бацькаўшчына нарэшце сталася незалежнай. Праўда, ад фармальнае дэкляарацыі да адраджэнай у сваёй культуры, мове, веры ў Бога, чалавечай і нацыянальнай годнасьці, эканамічнае сіле незалежнай Беларусі дарога цяжкая і далёкая. Але галоўнае цяпер, што дзякуючы працы нашых патрыётаў ужо першыя крокі зрабілі. Абы бальшавіцкая вандзя, што заканаранілася ў нас, не справакавала на кровапраліцьце, каб наш народ змог адбудоўваць зруйнаваную краіну мірным і праўным шляхам — вось чаго будзем спадзявацца і для гэтага працаваць!

Няхай памагае Вам Бог! Мы, суродзічы Вашыя з замежжа, як і раней, будзем падтрымліваць БНФ і ўсе дэмакратычныя партыі.

Жадаю Вам, у маёй роднай Віцебшчыне, радасных Каляд, плёнаў працы й добрага здароўя ў наступным новым годзе!

ЖЫВЕ НЕЗАЛЕЖНАЯ РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ!

З пашанаю да Вас,
**К. АКУЛА.**

*Кто нами руководит*

# Дон-Кихот А. Гаврутиков,

## ИЛИ О НОВОЙ ОПЕРАЦИИ «ЖИЛЬЕ»

## И ВСЁ О ТОМ ЖЕ В. ЛАПИНСКОМ

***Спустя несколько дней после публикации статьи «А закон что дышло» (№ 5 от 4 декабря) в редакции раздался телефонный звонок. Не представившись, бойкий мужской баритон посетовал:***

***—Вот Вы нашли «жареный» факт на первого заместителя представителя горисполкома и быстренько подали в газету. А когда Вячеслав Кириллович Лапинский как-то пытается решать жилищные проблемы ветеранов войны, Вы этого не видите.***

***—Ну, например?***

***—Улучшили жилищные условия участнику Великой Отечественной войны гр. Серканову,—послышалось на другом конце провода...***

***Пришлось нашему корреспонденту поинтересоваться объектом заботы вышеуказанного работника горисполкома. Вот какая вышла история.***

Председатель цехового комитета Витебского телевизионного завода Т. Вериго проживала с мужем и сыном в двухкомнатной кооперативной квартире жилой площадью 27,48 квадратных метра по улице Чкалова в областном центре с 1983 года.

Естественно в улучшении жилищных условий она не нуждалась. На каждого члена семьи приходилось более 7,1 квадратного метра жилья. А других предусмотренных законом оснований для признания ее нуждающейся в улучшении жилищных условий не было. Но желание получить более просторную и современную квартиру у этого человека было столь велико, а примеры из жизни наших руководящих «бугров» так заразительны!

И вот у Татьяны Владимировны появляется идея. Как раз в это время подули ветры перестройки. Не знаю, насколько она приняла близко к сердцу клич партии начать жить по-новому.

В апреле 1985 года Т. Вериго прописывает у себя отца В. Серканова и сразу становится нуждающейся в улучшении жилищных условий. А хлопот со стариком никаких. Ведь фактически Серканов проживает в райцентре Докшицы совместно с женой Э. Сивцевич в добротном доме, принадлежащем райагропромтехнике, жилой площадью в 36 квадратных метров. За эти метры с него регулярно взимали как с участника Великой Отечественной войны 50 процентов квартирной платы включительно по май 1991 года. Этот дом Серканов получил в 1967 году, работая управляющим Докшицкой сельхозтехники. Правда, кое-кому впоследствии не представилось возможным проверить законность предоставления В. Серканову указанного жилого помещения из-за отсутствия документов. Но это не беда. Главное—была крыша над головой.

Итак, фокус с пропиской удался.

Последнее время, с 22 мая 1989 года по 31 мая 1991 года, ветеран войны Серканов работал завхозом-комендантом Докшицкого райкома КПБ. В свободное от работы время почитывал газеты «Известия», «Сельскую жизнь», «АиФ», которые, кстати, выписывал по месту фактического проживания по ул. Доватора, 14 в Докшицах. Периодически наведывался в местную поликлинику, дабы поддерживать жизненные силы. Регулярно получал по спискам продовольственные товары в магазине № 4 г. Докшицы.

Какое никакое имелось хозяйство, огородик, садик, добрый поросеночек. Правда, когда надо было с женой выезжать к дочери в Витебск, чтобы «засветиться» перед жильцами кооперативного дома, приходилось кабанчика оставлять под присмотром соседей. В общем, жили не хуже людей...

А долговременная операция Татьяны Владимировны продолжается. В мае 1988 года гр. Вериго прописывает у себя еще и мать Сивцевич. Опять факт прописки покрыт мраком. В этом же году В. Серканов становится на льготную очередь в горисполкоме за получением жилья. Теперь наезды из Докшиц в Витебск становятся чаще.

Дальше события развиваются последовательно и быстро.

24 апреля 1990 года на имя заместителя директора по социально-бытовым вопросам телезавода Татьяна Владимировна пишет заявление: «Прошу включить меня в списки ЖСК на получение 4-х комнатной квартиры. Состав семьи 5 человек. Отец участник Великой Отечественной войны. На заводе работаю с июня 1980 года».

Далее она срочно трубит сбор своим родителям. «Эквакуация» супружеской пары Серканова и Сивцевич происходит поспешнее бегства шведов под Полтавой. Хотя следует признать—организованно. Но обратимся к документам. Из слов заместителя председателя Докшицкого городского Совета Бальчевской: «До мая 1991 г. Серканов работал в РК КПБ, уехал, погрузив свои вещи, не оповещая городской Совет». А что объяснил Л. Гущик: «Серкановы уехали в мае 1991 года. Отъезд их был для всех неожиданным».

Потерпи читатель, о В. Лапинском позже. А пока факты.

11 июня 1990 года на совместном заседании администрации и профсоюзного комитета завода утверждается решение жилищно-бытовой комиссии: «в целях улучшения жилищных условий участнику ВОВ Серканову В. И. включить его дочь Вериго в ЖСК для строительства 3-х комнатной квартиры на 49,45 квадратных метра с составом семьи 3 человека, состоит на очереди с 17.11.89 г. под № 10».

И наконец победный финал этой операции «жильё»: решением исполкома городского Совета народных депутатов № 250 от 30 июля 1990 года утверждается список работников ВТЗ, которым предоставлены квартиры в ЖСК № 153 по улице Чкалова, 39, где значится и Вериго с мужем и сыном. 31 августа 1990 года на общем собрании членов ЖСК ей выделяют 3-х комнатную квартиру. 1-го ноября она получает ордер и переезжает на новое место жительства, оставляя родителям свою двухкомнатную квартиру.

Расширив таким образом свою жилплощадь и обеспечив витебской городской квартирой родителей Татьяна Владимировна высвободила свою энергию для общественно-политической борьбы. Она решила потягаться за кресло председателя профсоюзной организации производства ТНП завода.

И надо же, появился на горизонте неугомонный депутат А. Гаврутиков. Именно он до сей поры с дон-кихотским упорством не дает спокойно спать в незаконно полученных квартирах бывшему первому секретарю горкома КПБ А. Образову, заместителю председателя президиума Первомайского райсовета С. Шклейник и бывшему секретарю Витебского райкома КПБ Р. Наумовой. Именно этот Гаврутиков приоткрыл пелену секретности нарушения жилищного законодательства при продаже кооперативной квартиры директору мехового комбината В. Чалову.

А. Гаврутиков громогласно ставит в известность делегатов конференции о нарушении жилищного законодательства при выделении жилья Т. Вериго и призывает их не выдвигать ее на такую должность. Эх люди, люди! С незначительным большинством Татьяна Владимировна все же пересаживается в освободившееся кресло. Везет ей, везет!

Вот, пожалуй, и все. Только возникает резонный вопрос, какая роль В. Лапинского в предоставлении жилья ветерану войны Серканову? Да почти никакой. Если не считать письмо, адресованное директору и председателю профсоюзного комитета ВТЗ от 12.04.90 г. № 167. Интересная деталь: маховик этой операции «жилье» начинает раскручиваться именно после этого письма. Лишь после высокой депеши первого заместителя председателя горисполкома последовало заявление Т. Вериго и другие ее действия (см. по датам выше).

Вячеслав Кириллович шлет за своей подписью письмо следующего содержания: «жилищное управление ГИК просит рассмотреть вопрос о включении в формируемый ЖСК в 1990 г. работницу Вашего предприятия Вериго Т. В., т. к. ее отец Серканов В. И. состоит на льготной очереди ГИК как участник ВОВ и нуждается в улучшении жилищных условий».

Ко всему сказанному следует добавить, что 2400 человек на телевизионном заводе стоят в очереди за получением жилья, а еще больше нуждающихся томится в общегородской очереди. И редко кто из этих тысяч может похвалиться таким ударным подспорьем, как депеша тов. Лапинского. В предыдущем номере мы писали об «операции» по жилью В. Чалова, в этом—Т. Вериго.

Кому еще так усердно помогает Вячеслав Кириллович? Кто же наконец остановит его в проявлении как кажется на первый взгляд невинной щедрости, а на самом деле—в содействии нарушению закона?

**Б. ХАМАЙДА.**

# Американец на джипе не подвезет

***Витебск—Брест—Ратибуж. По этому маршруту побывал на житейских дорогах наш корреспондент. Предлагаем читателям его путевые заметки.***

## КРЕПОСТЬ НАД БУГОМ

Хмурые утро и день, такие же беспросветно хлопотные, как вчера и завтра, серые вагоны поездов и здание Брестского вокзала... Озабоченное и постаревшее в три-четыре дня лицо толпы. С каждым часом и днем пассажиры уезжают на вожделенный Запад, их место занимают другие, и численность круглосуточно снующего здесь потока людей остается постоянной, как и горы огромных сумок и чемоданов на тележках носильщиков, штабелями уложенные вещи в огромных зданиях вокзала. Будильники, велосипеды, детские коляски, электроприборы, гайки, ключи, отвертки—все это вывозится на польские рынки и превращается в море злотых. Так рядовые бывшей страны Советов делают отчаянную попытку приодеться, а некоторые и создать капитал для рынка на своем уровне, пока сильные мира нашего делят между собой плоды Великой Октябрьской в масштабах Союза и республик.

Заглянуть в самую сущность происходящего в Бресте мне помогли трое попутчиков, с которыми, как говорят, свела судьба, и, разумеется, перестройка нашей экономики на капиталистический лад. Были это Лариса из Баранович, конструктор из Бреста Прохор Петрович и азербайджанец Миша из Баку. Утром 12 декабря 1991 года перед нами стояли две важные задачи: взять билеты и держать очередь на таможню. Обе эти очереди почти не продвигались. К кассе то и дело прорывались местные мафиози, покупали билеты до Варшавы за 20 рублей и тут же предлагали их обалдевшим от подобного цинизма и нахальства пассажирам за тысячу, при этом доверительно сообщая, что билеты продаются только для жителей Брестской области.

Люди молчали, верили слухам, в том числе и тому, что граница не сегодня-завтра будет закрыта. Но домой никто не возвращался: ворота в Бресте в те дни уходящего года были единственными, через которые можно было проскочить за границу до наступления рождественских праздников. Подготовленные в соцочередях сограждане, или, как теперь называют, дамы и господа, были и здесь в своей тарелке: стояли профессионально и до потери сознания.

Женщина перед билетной кассой уронила на пол паспорта. Документы пропали, толпа расступиться не смогла: люди слились в плотную, насквозь пропотевшую стену. Не выдержав давки, потерял сознание молодой мужчина. Плакала, жалуясь на свои болезни, старушка. Но когда впереди стоявший зазевался, мощным движением вытолкнула его из очереди. В целом это столпотворение мало отличается от, скажем, штурмов Витебского универмага или водочного магазина. Подобное же происходит ежедневно и в наших продовольственных. Разве что на брестском вокзале сумок у людей побольше, и отсюда не забежишь домой, чтобы наспех переспать, а наутро снова двинуться в эту толчею.

Через 25 часов Миша и Прохор Петрович вырвали меня из очереди: самому пробиться от билетной кассы «на волю» было невозможно. Сменяя друг друга каждые три-четыре часа, билеты за границу мы выстояли. Посветлело брестское небо, разговор между нами стал веселее, и на мгновение вспомнилось, что где-то здесь, недалеко находится легендарная крепость-герой, о которой мы так много наслышаны. Но в суматохе сегодняшних дней, полных разочарований и тревог, уходят от нас и те крохи культуры, поэтичности, святости, которые несмотря на вопиющую фальшь коммунистической пропаганды все же в душе были. И человек без них остается сам на сам со своими материальными запросами. Выжить бы, и не столько ради себя—ради близких своих. Не так ли думает вот эта украинка, собиравшая, выстаивая такие же длинные очереди в своем городе, шила да мыла, чтобы завести их в Польшу и на этом заработать побольше злотых. Побольше, чтобы их хватило заплатить врачу в Варшаве, который, может быть, вылечит ее одиннадцатилетнего сына. Мальчик сидит рядом с матерью на протертой вокзальной скамейке и вместе с ней рассматривает билет, который она в одиночку за сутки выстрадала в дикой очереди. Родом они из-под Чернобыля. Помоги им, Бог!

Привычное для нас словосочетание крепость над Бугом приобретает в эти годы и дни новый смысл и иное содержание. Приграничный город осаждают те, кто совсем недавно напевал навязанную изощренными пропагандистами дурацкую песню в вопросах и ответах. Помните: «Хочешь миллион? Нет! Хочешь на Луну? Да! Да!» Пели от души, а ведь думали-то наоборот. Точно так же, как и наши партбоссы вчера, а сегодня народные депутаты: чем больше и от души пекутся о нас, тем красивее и богаче живут сами.

## ЧТО У ВАС, РЕБЯТА, В РЮКЗАКАХ!

Если у билетных касс было жарко, то в очереди на таможенный досмотр люди мерзли. Шириной метров в шесть и длиной в сто жила она сутками, неделями, понемногу двигаясь, но не уменьшаясь. Начиналась у дверей таможенного зала, средина проходила по залу ожидания, а хвост мерз на улице. Милиция и администрация вокзала, казалось, не замечали эти огромные скопления народа. И хотя инцидентов здесь избегали, стражи порядка могли бы упорядочить и облегчить жизнь пассажиров, а своевременная информация администрации по радио сняла бы напряжение. Низведенные до уровня стада, люди воспринимали информацию, идущую неизвестно откуда, но не реагировали никак. Сидели на ящиках из-под бутылок, стояли, сновали взад-вперед, пили чай, жевали. Жили. Этот вокзал, как и очередь в любимом городе, теперь был просто местом их работы. Русские, украинцы, азербайджанцы, грузины... Усвоив главный принцип делового человека, что работать надо при любом правительстве, они мало интересовались тем, что происходит в эти дни и часы у них на родине.

Наша четверка в этом столпотворении не распадалась уже третьи сутки. Ларису приезжал отведать ее муж—офицер из Баранович. Он же привез чемоданы и сумки, которых, судя по неопытности молодой четы, оказалось чрезмерно много, и только уповая на наше содружество, она надеялась продвинуть их, не растеряв до таможенного стола. Конструктор Прохор Петрович все время читал длинную, на всю газету статью о Высшем космическом разуме. Он, как человек местный, знал больше нашего о тайнах таможни, держался нас, но были у него какие-то соображения проскочить границу со своими двумя небольшими, но туго набитыми саквояжами раньше других. Деятельный Миша бегал по многочисленным зда-

(Продолжение на 5-й стр.).

*Что происходит с приватизацией*

# НЕ УПУСКАЮТ СВОЙ ШАНС

На прошедшем в Витебске заседании постоянно действующей конференции профсоюзов машиностроителей и приборостроителей внимание его участников привлекли гости из Минска.

Первый—представитель официальных профсоюзов говорил мягким, вежливым тоном о том, что членам профсоюзов надо изучить, разобраться в понятиях либерализация цен, приватизация... Верховный Совет? Да, он бесплоден и его надо отозвать. Но будем исходить из того, что мы можем сделать...

Как оказалось из выступления официального профтоварища, могут члены профсоюзов ничего, ибо нет пока законов о выборах, о порядке отзыва народных депутатов... Но эти законы должны принять, т. е. вырыть себе политическую могилу сами депутаты.

Словом, круг замкнулся. И слова профлидера, призывающие семьдесят семь раз отмерить и ничего не резать, мудры, как взгляд застывшего Сфинкса. Под эту гипнотизирующую песнь можно было спокойно уснуть, если бы не ворвался в зал вихрь мыслей и чувств второго минчанина—председателя исполнительного комитета Конфедерации труда Беларуси М. М. Соболя. Что же происходит, по мнению этого лидера с приватизацией? Вот его основные мысли.

«На ваших глазах происходит приватизация в форме незаконного присвоения собственности при отсутствии закона о приватизации. Руководители и должностные лица при этом используют неинформированность и материальную зависимость своих подчиненных.

Несколько примеров.

Создание под конкретных людей третьих юридических лиц (акционерных обществ, ассоциаций, концернов), которым от имени трудовых коллективов передается собственность государственных предприятий, торговых фирм, бирж и т. д., которые делают капитал на перепродаже продукции государственных предприятий и скупают эти предприятия.

Принудительный перевод госпредприятий в арендные, на невыгодных для трудовых коллективов условиях. Повторный принудительный выкуп основных фондов, оплаченных коллективами в процессе предыдущих хозрасчетных отношений (внутрихозяйственной аренды). Манипуляции остаточной и рыночной стоимостью, в зависимости от того, кто выкупает предприятие.

Искусственный перевод предприятий в нерентабельные (срыв плана и договоров, завышение себестоимости) с целью приобретения по заниженным ценам.

Незаконные увольнения работников под предлогом отсутствия объемов, реорганизации и т. д. Оставшуюся часть коллективов под страхом сокращения вынуждают принимать новые уставы и подписывать индивидуальные контракты, посредством которых администрация получает права собственника до официальной приватизации.

Изменение отношений собственности путем принудительного коллективного оформления заявлений (на увольнение и на прием одновременно), причем увольняется полноправный трудовой коллектив от администрации, а принимаются отдельные наемные работники к собственнику.

При этом внимание работников целенаправленно уводят от конкретных социально-экономических и правовых механизмов в область социальной демагогии и политиканства. Зарплата и нормы отпуска товаров используются, как средство регулирования массового недовольства в определенном направлении».

Дальновидные экономисты еще в начале конца коммунистического правления предсказывали: разделить намного сложнее, чем отнять. И сегодня каждый из нас смутно чувствует, что сильные мира сего при этой дележке используют свой последний шанс до конца. Раскрывать механику перехода капэясовцев из партаппаратного рая в буржуазную биржу дело неблагодарное, более того, опасное. Но, как видите, мир не без мужественных людей, готовых постоять и за себя, и за других.

**Наш корр.**

# КАК ЖЕ ВЫПУТАЕМСЯ?



*Дорогой ветеран! Сделал я этот снимок и не спросил вашей фамилии. В редакции мне сказали, что это прославленный партизан-подпольщик Н. Нагибов, о котором написана книга. Живет в Витебске.*

*О чем Вы так задумались Николай Яковлевич? Я почти не знал войны, был совсем малышом, когда вы сражались, стали уже в годы оккупации Витебска легендой.*

*Мне, так мало сделавшему для Родины по сравнению с Вами, стыдно, что жизнь прожил почти впустую. А каково тогда Вам, столько отдавшему сил и здоровья, всегда в те грозные годы находившемуся на волоске от смерти? Вам же, наверное, во сто крат обиднее слышать о гуманитарной помощи из Германии. Врагов одолели вы, а теперь те, которых вы победили, присылают нам одежду, бывшую в употреблении. Спасибо, конечно, этим людям. Может они и не хотят нас обидеть.*

*И как тут не спросить в целом, не адресуя вопрос никому конкретно: во имя чего вы положили свою богатырскую силу, Николай Яковлевич? Известно, многие скажут, за свободу и независимость нашей Родины.*

*Не знаю, о чем вы думаете, дорогой наш ветеран, а мне пришла в голову такая мысль: боролись за независимость от гитлеровцев, притом успешно, а освободиться от своих внутренних поработителей—создателей и носителей тоталитарной системы, не смогли, да и не пытались.*

*Я склоняю низко голову перед вашим подвигом, Николай Яковлевич, в Великой Отечественной войне и очень сожалею, что у Вас и ваших сверстников—героев не нашлось сил и мужества разобраться со своими угнетателями, а заодно научить уму—разуму и молодежь.*

*Впрочем, мне хорошо быть умным задним числом. Не вправе я судить старшее поколение. Как Вы думаете? Пройдет еще время, и откроются новые неприглядные факты нашей истории. Я в этом уверен. Ничего не поделаешь, не часто бывает, что Бог наказывает целый народ таким диким многолетним экспериментом, в котором мы все еще находимся начиная с 1917 года.*

*Сейчас, как мне кажется, всем нам надо прозреть, а не искать виновных. Заложниками системы были все без исключения: и правые и левые.*

*Только как выпутаемся из нищеты при огромных сельхозугодьях, при богатых ископаемыми недрах, при десятках миллионов рабочих рук? Вот так парадокс, чудовищную пагубность которого, уверен, еще до конца не осознали.*

**А. ВАСИЛЬЕВ,**
**фото автора.**

*Аб чым не прынята гаварыць*

# Славік у жаночым

**Грамадства не можа прэтэндаваць на званне міласэрнага, калі забывае аб сваіх нясчасных суайчынніках, калі раўнадушна пазірае на тое, як яны пакутуюць пад насмешкі, гогат і свіст. А калі такое ёсць, да той пары будуць сярод іх маральныя калекі і самагубцы, бо здзек ці памылка прыроды прывялі да з'яўлення на свет транссексуалаў-асоб, у якіх назіраецца разыходжанне паміж біялагічным і пашпартным полам, у якіх устойліва адчуванне прыналежнасці да полу супрацьлеглага.**

Гэта тэма, бадай, ніколі не ўздымалася на старонках беларускіх газет. Таму тонкасць і далікатнасць майго візіту прыводзіла да такіх маральных пакут, да такой збянтэжанасці, што ўжо тады, калі маці Славіка адчыніла дзверы, я хацела збегчы ці правaліцца на месцы ад нейкага страху ці то ад нейкай сарамлівасці. Але—пераступіла парог утульнай кватэры, і Славік адразу выйшаў. У доўгім махровым халаце, з крыжыкамі на паўголых грудзях. Мужчына як мужчына: кароткая стрыжка з праступаючай лысінкай, рост дзесьці пад 170 сантыметраў.

Славік загаварыў, запрашаючы ў другі пакой «пасакрэтнічаць-пасплетнічаць», а я здзіўлена ўглядалася ў яго твар з тонкімі вуснамі і, здаецца, з толькі што змытымі пасля касметыкі павекамі, і намагалася зразумець, адкуль зыходзіць ласкава-ветлы жаночы голас. Голас, ну якраз як у добрай сяброўкі, якая толькі і чакала мяне. Праз імгненне на змену збянтэжанасці прыйшло пачуццё спагады і жаданне зразумець вось такога чалавека.

—Я здагадваюся, чаго вы прыйшлі—з гарачаю самай няшчаснай жанчыны вымавіў Славік. (У гэты час у яго нават уздых вырваўся спецыфічна жаночы, нават рукі былі складзены, як толькі ў адчаі могуць скласці жанчыны).—Гэта—дзякуючы Віцебскім урачам стаў такі вядомы. Хіба яны могуць гарантаваць хоць у чым ананімнасць. А як мне з такім падвойным жыццём?.. Ды я і не скрываў ніколі...

—Славік,—пытаюся асцярожна,—раскажыце, як вы адчулі ўсё, з чаго пачалося?

—З дзяцінства аддаваў перавагу сяброўству з дзяўчынкамі, іх банцікам, цацкам. Пазней, у той самы пераходны ўзрастковы перыяд, адчуў, што хачу падабацца хлопчыкам. Падмалёўваў вусны, вочы... Набываў употай ад дамашніх жаночую бялізну... Самае пакутлівае, калі стаў выразна адчуваць целам у сябе жанчыну, з усімі першаснымі і другаснымі палавымі прызнакамі.

Я імкнуся пераасэнсаваць сказанае, але нічога не магу зразумець і ўявіць нават тады, калі Славік паказвае касметычны набор з самых розных памад і ценяў для павек, калі паказвае свае фотакарткі, з якіх пагiядае даволі мілы тварык адной і той жа дзяўчынкі—Славіка ў юнацтве. На адной з іх—ён на пляжы, у плавачках і бюстгальтэры.

—Знаеце,—працягвае далей Славік,—мне падабалася, калі я бываў падфарбаваны, калі на мяне заглядваліся мужчыны. Ды і ўвогуле, калі хто-небудзь і дурай называў, мне было вельмі прыемна. Часта з'язджаў на некалькі дзён у іншыя гарады. Там адчуваў сябе, як рыба ў вадзе, знаёміўся пад жаночымі імёнамі.

—А каханне? Ці было ў вас каханне?..—пытаюся ў Славіка, бо падаецца, што перада мной мая сяброўка, з якой не бачылася некалькі гадоў, з якой разам успамінаем аб прайшоўшым і далёкім.

Але гэта—Славік, 30-гадовы Славік, які кропля ў кроплю такі ж, як я, як іншая любая жанчына ў сваіх праявах і пакутах, якія суправаджаюць першае каханне.

—Я і сёння не магу яго забыць. Божа, я ж так любіў... Сустракаліся чатыры месяцы... Зайшло даволі глыбока, і я адчуў, што ў маім жыцці ў гэтым плане не можа быць нічога сур'ёзнага і пастаяннага. Разыграў сцэну рэўнасці, каб разарваць адносіны: прайшоўся каля яго з іншым маладым чалавекам... Потым пайшлі выпадковыя і непрацяглыя сувязі.

—З жанчынамі?..

—Не, з мужчынамі... Некаторыя так і не ведаюць, хто я... Я вымушаны стаць такім. Ніхто ж мне не пажадаў памагчы, урачы смяяліся, як з дурня.

—Хто накіраваў вас да іх?

—Яшчэ ў дзевятым класе прачытаў у польскім часопісе артыкул «Пан ці пані». Я ведаю польскую мову. Гэтым я вытлумачыў для сябе сваё становішча. Артыкул падштурхнуў да дзеяння. Пайшоў да ўрачоў-псіхіятраў, пасмяяліся, але накіравалі да эндакрынолагаў. Правялі аналіз букальнага эпітэлія слізістай рота на ўтрыманне палавога храманціна. Маё становішча пацвердзілася: Х-храмасома—0%, У-храмасома—таксама 0%, гэта значыць, што я—

